# КРЫВІНКА

САКАВІК
№5 (249)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




НАВІНЫ РАЙВЫКАНКАМА

## НАШ НОВЫ КІРАЎНІК

**Новай старшынёй Бешанковіцкага райвыканкама стала Галіна Унуковіч.**

Як пішуць "Віцебскія весці", у Галіны Уладзіміраўны важкі досвед працы на кіруючай пасадзе. За гэты час зарэкамендавала сябе кваліфікаваным, ініцыятыўным кіраўніком. Яе адрозніваюць вялікая працаздольнасць, высокая адказнасць за даручаную справу. Прынцыповасць Галіны Унукович ў вырашэнні праблем спалучаецца з уважлівым стаўленнем да людзей і іхніх патрэб.

– Мая галоўная задача – забяспечыць годны ўзровень жыцця кожнага грамадзяніна, – сказала Галіна Уладзіміраўна.

Як адзначыў старшыня аблвыканкама Мікалай Шарстнёў, у Бешанковіцкім раёне было зроблена нямала тымі кіраўнікамі, якія ўзначальвалі яго раней. Леанід Пяньkоўскі даў старт развіццю прамысловай галіны. Гэтую дзейнасць працягнуў Андрэй Булаўкін, які сёння стаў каля руля аднаго з сямі аграпрамысловых аб'яднанняў Віцебшчыны на базе Аршанскага мясакансервавага камбіната.

Разам з тым сёння Бешанковіцкі раён мае шэраг праблем, адзначыў кіраўнік рэгіёну. Неабходна надаць асаблівую ўвагу развіццю сельскай гаспадаркі, аграпрамысловага комплексу і навесці парадак у гаспадарках, у кожнай павысіць якасныя паказчыкі, павялічыць вытворчасць прадукцыі, зрабіць больш жорсткім кантроль і дысцыпліну, пры гэтым забяспечыць годны ўзровень заработнай платы, стварыць умовы для тых маладых спецыялістаў, хто хоча працаваць на карысць роднага раёна.

У Віцебскім аблвыканкаме лічаць, што Галіна Уладзіміраўна здолее выкарыстаць свае веды і вопыт, зрабіць усё неабходнае, каб раён упэўнена развіваўся і выконваў усе дзяржаўныя праграмы.

***Даведка***

*Галіна Уладзіміраўна Унуковіч нарадзілася ў вёсцы Шыбекі Аршанскага раёна. Пачынаючы з 1994 года на працягу чатырнаццаці гадоў яна працавала ў сістэме адукацыі Чашніцкага раёна, затым працавала намеснікам старшыні камісіі па справах непаўналетніх райвыканкама.*

*У 2010 годзе была прызначаная намеснікам старшыні Глыбоцкага райвыканкама. З красавіка 2014 га працавала старшынёй раённага Савета дэпутатаў.*

*Галіна Унуковіч скончыла Віцебскі дзяржаўны універсітэт ў 1997 годзе па спецыяльнасці "Педагогіка і методыка пачатковага навучання", у 2006 годзе - па спецыяльнасці «Гісторыя», у 2010 годзе - Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці «Дзяржаўнае і мясцовае кіраванне».*

**Алена Фёдарава**

***Партал твайго горада: http://beshankovichy.by***

НАША ЖЫЦЦЁ

## НАЙДАРАЖЭЙШЫ БЯРОЗАВІК – У НАС!

**Як 27-га сакавіка паведаміла раённая «Зара», цана на бярозавік у Бешанковіцкім лясгасе сёлета складае 37 капеек за літр. Праўда, калі звяртацца наўпрост у лесасекі, то можна набыць і за 29 копеек. Але гэта ўсё-роўна занадта высокая цана. Двумя тыднямі раней TUT.BY вывучыў кошты ў розных раёнах Віцебскай вобласці. Аказалася, што сок лясгасы Віцебскай вобласці прадаюць ад 16 да 36 капеек за літр. Самы танны бярозавы сок у Аршанскім раёне: тут яго прадаюць за 16-19 капеек за літр.**

Шумілінскі лясгас прадае сок па 21 капейцы за літр, Багушэўскі і Полацкі – на капейку даражэй, Глыбоцкі – за 24 капейкі, Ушацкі – за 26 капеек.

Лёзненскі лясгас прызначыў такія кошты. Літр соку, набытага ў лясніцтве, абыйдзецца ў 29 капеек. Але калі купляць яго на лесасеках, то 23 капейкі.

Жыхары Гарадоцкага раёна могуць купіць сок у лесе (12 капеек за літр), у лясніцтвах (24 капейкі за літр) і ў лясгасе (36 капеек за літр).

Лепельскі лясгас рэалізуе сок за 30 капеек за літр у тару пакупніка.

Адзін з самых дарагіх сокаў прадаецца ў лясніцтвах Віцебскага раёна (34 капейкі за літр, прычым толькі ў тару пакупніка). Пастаўскі лясгас робіць так. Тут літр соку з улікам тары каштуе 36 капеек, а калі пакупнік прынясе сваю тару – то 24 капейкі. Тара – поліэтыленавая бутэлька ёмістасцю 5 літраў, удакладняе прадпрыемства.

На поўдні Беларусі, у Брэсцкай вобласці, літр бярозавага соку будзе каштаваць каля 15-17 капеек. Цана – як у мінулым годзе.

Дарэчы, бярозавік у Беларусі можна збіраць цалкам бясплатна. Для гэтага не трэба мець ніякіх дакументаў – дастаткова звярнуцца ў лясгас і атрымаць дазвол ляснічага. У лясгасе пакажуць канкрэтнае месца і дрэвы, з якіх менавіта вам можна здабываць сок. Без такога дазволу фізасобы рызыкуюць заплаціць штраф да 20 базавых, прадпрымальнікі – да 100, а юрыдычныя асобы – да 500.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах газет**

COVID-19

## «СЫТУАЦЫЯ СУР'ЁЗНАЯ, ЯЕ ФІНАЛ АДКРЫТЫ»

**Канцлерка Нямеччыны Ангела Мэркэль зьвярнулася да немцаў у сувязі з пандэміяй каранавіруса ў сьвеце.**

«Каранавірус вельмі сур'ёзна зьмяняе жыцьцё ў нашай краіне. Нашае ўяўленьне аб штодзённасьці, аб грамадзкім жыцьці, аб сацыяльным узаемадзеяньні — усё гэта падвяргаецца выпрабаваньню, як ніколі раней. Мільёны з вас ня могуць хадзіць на працу, вашыя дзеці не ходзяць у школы і дзіцячыя сады, тэатры, кіно і крамы зачыненыя, і, што, напэўна, цяжэй за ўсё — усім нам не хапае асабістых сустрэчаў.

Вядома, у такой сытуацыі кожны з нас заклапочаны, мы задаемся пытаньнем, што будзе далей. Сёньня я такім незвычайным чынам звяртаюся да вас, таму што хачу распавесьці, чым я як канцлерка, а таксама мае калегі ва ўрадзе кіруемся ў гэтай сытуацыі. Гэта і ёсьць адкрытая дэмакратыя: мы прымаем палітычныя рашэньні празрыста і тлумачым іх. Мы стараемся тлумачыць нашыя дзеяньні максімальна старанна і інфармаваць пра іх, каб унесьці яснасьць. Я цьвёрда веру, што мы справімся з гэтай задачай, калі сапраўды ўсе грамадзяне зразумеюць яе як сваю задачу.

Таму дазвольце сабе выказацца так: усё сур'ёзна. І вы таксама пастаўцеся да гэтага сур'ёзна.

**Найбольшы выклік краіне**

З часоў узьяднаньня Нямеччыны, не, з часоў Другой усясьветнай вайны не было большага выкліку нашай краіне, пры якім так шмат залежала б ад нашых сумесных салідарных дзеяньняў.

Я хачу растлумачыць вам, на якім этапе разьвіцьця зараз знаходзіцца эпідэмія ў краіне, распавесьці, што робіць фэдэральны ўрад і дзяржаўныя структуры, каб абараніць усіх у нашым грамадзтве і паменшыць эканамічную, сацыяльную і культурную шкоду. Але яшчэ я хацела б данесьці, чаму для гэтага нам патрэбныя вы і што можа зрабіць кожны з вас.

Аб эпідэміі — усё, што я скажу вам, заснавана на сталых кансультацыях фэдэральнага ўраду з экспэртамі інстытуту Робэрта Коха і іншымі навукоўцамі і вірусолягамі: ва ўсім сьвеце вядуцца інтэнсіўныя дасьледаваньні, але да гэтага часу няма ні тэрапіі супраць каранавірусу, ні вакцыны.

Пакуль гэта так, можна зрабіць толькі адно, і гэта галоўнае ва ўсіх нашых дзеяньнях: запаволіць распаўсюджваньне вірусу, расьцягнуць яго на месяцы і такім чынам выйграць час. Час для таго, каб навукоўцы маглі распрацаваць лекі і вакцыну. Але перш за ўсё час для таго, каб мы маглі паклапаціцца найлепшым чынам аб тых, хто захварэў.

У Нямеччыне выдатная сыстэма аховы здароўя, магчыма, адна з найлепшых у сьвеце. На яе можна спадзявацца. Але нават нашыя шпіталі будуць цалкам перагружаныя, калі ў самы кароткі час у іх будзе дастаўлена шмат пацыентаў, у якіх каранавірусная інфэкцыя працякае цяжка.

*(працяг на стар. 2)*

### ****

*Мне трынаццаць гадоў.*
*Восьмы клас. Кожны ранак –*
*у школу.*
*Там пра тое, што вучымся мы*
*ў панскім доме,*
*ня кажуць ані.*
*Нас дванаццаць падлеткаў у класе,*
*здаровых, вясёлых.*
*Мы з краінай усёю*
*будуем якісь камунізм.*

*Калі шчыра, то нам*
*не да гэтай пустой замарочкі,*
*хоць на подзьвігі нас*
*тэлескрынкі штовечар завуць.*
*Горкі яблык даём мы таму,*
*хто ў Маскву вельмі хоча.*
*Як укусіць – сьмяёмся з яго:*
*"Што, убачыў Маскву?"*

*А бацькі камунізму ня супраць:*
*"Няхай той прыходзіць,*
*мо з каленяў узьнімецца*
*наш гарапашны калгас!"*
*А настаўнікі вучаць,*
*што эксплуатацыя ў модзе*
*за мяжой. А для нас праца –*
*сьвята…*
*І ўвосень на бульбе ўвесь клас!*

*Вось нядаўна з Амерыкай мы,*
*памірыліся зноўку,*
*хоць нядаўна крычалі:*
*"Амерыка – страшнае зло!"*
*А ўжо сёлета ў космасе*
*з імі пайшлі на стыкоўку,*
*хутка будзем паліць мы за школай*
*"Саюз-Апалон".*

*Наша родная мова*
*пасьпела ўсім моцна намуляць.*
*Кажуць, зьнікне яна,*
*неўзабаве ёй будзе капец.*
*І няважна, што з нас*
*прэ фанетыка нашых бабуляў,*
*нам па сьвятах даводзіцца*
*песьні расейскія пець!*

*Крамку ў нашае вёсцы*
*шануем мы болей цяперака,*
*бо тут слодычы ўволю,*
*гарэлкі хапае на ўсіх.*
*Калі вырасту, то*
*есьці буду выключна цукеркі,*
*іх на сёньняшніх дваццаць капеек*
*ня надта з'ясі.*

*Мы, каб тыя капейкі здабыць,*
*з себруком дзяром лыка.*
*Сілуэты лазовых кустоў,*
*як шкілеты здаля.*
*Гэта збоку здаецца,*
*што лёгка драць,*
*каб яго ліха,*
*а да хаты прыцягнеш –*
*цягліцы назаўтра баляць.*

*Мне – 13 гадоў. Гэта дата,*
*а мо і не дата.*
*Я і сёньня гляджу на жыцьцё*
*з вышыні грушы той,*
*што расьце цэлы век пры дарозе*
*супроць нашай хаты,*
*і сябе адчуваю*
*маленькай галінкай адной.*

***Г.Станкевіч***

COVID-19

*(пачатак на стар. №1)*

Гэта не проста абстрактныя лічбы статыстыкі, гэта нечыя бацька ці дзед, маці ці бабуля, нечыя партнэры, гэта людзі. Мы — грамадзтва, у якім важнае кожнае жыцьцё, кожны чалавек.

Перш за ўсё ў гэтай сытуацыі я б хацела зьвярнуцца да лекараў, мэдсёстраў і мэдбратоў, да ўсіх работнікаў нашых шпіталёў і сыстэмы аховы здароўя ў цэлым. У гэтай барацьбе вы змагаецеся за нас на перадавой. Вы першымі сустракаецеся з хворымі, бачыце, як цяжка працякаюць некаторыя выпадкі інфэкцыі. І кожны дзень вы зноў бярэцеся за працу і дапамагаеце людзям. Вы робіце вялікую справу, і я дзякую вам за гэта ад усяго сэрца.

**Што рабіць?**

Такім чынам: задача палягае ў тым, каб запаволіць прасоўваньне вірусу на яго шляху праз Нямеччыну. Выконваючы гэтую задачу, мы павінныя — і гэта жыцьцёва важна — засяродзіцца на наступным: па магчымасьці абмежаваць грамадзкае жыцьцё. Вядома, у разумных межах, таму што дзяржава павінная функцыянаваць і далей, натуральна, мы захаваем забесьпячэньне насельніцтва і захаваем эканамічную дзейнасьць па меры магчымасьцяў.

Але ўсё, што можа пагражаць людзям, усё, што можа пашкодзіць чалавеку або грамадзтву, мы павінныя зараз абмежаваць.

Мы павінныя паменшыць рызыку заражэньня аднаго чалавека іншым, як толькі можам.

Я ведаю, наколькі сур'ёзнымі апынуліся гэтыя абмежаваньні ўжо зараз: ніякіх мерапрыемстваў, ніякіх кірмашоў, ніякіх канцэртаў, перш за ўсё, ніякіх заняткаў у школах і ўнівэрсытэтах, ніякіх гульняў у дзіцячым садку і на дзіцячых пляцоўках. Я ведаю, як жорстка ўрываюцца ў наша жыцьцё і ў нашую дэмакратычную самасьвядомасьць абмежаваньні, пра якія дамовіліся фэдэральны і зямельныя ўрады. Падобных абмежаваньняў ніколі яшчэ не было ў рэспубліцы.

Дазвольце вас запэўніць: чалавек накшталт мяне, якому свабода перамяшчэньня дасталася ў цяжкай барацьбе, можа знайсьці апраўданьне падобным абмежаваньням толькі ў крайняй неабходнасьці. У дэмакратычнай краіне яны могуць быць уведзеныя толькі на вельмі сур'ёзным падставе і толькі часова — але зараз яны неабходныя, каб захаваць жыцьці.

Таму ад пачатку тыдня ўведзеныя больш жорсткі памежны кантроль і абмежаваньне на ўезд зь некаторых найважнейшых суседніх з намі краінаў. Эканоміцы, буйным і дробным прадпрыемствам, крамах, рэстаранах, самазанятым ужо цяпер вельмі цяжка. Наступныя тыдні будуць яшчэ цяжэй. Запэўніваю вас: фэдэральны ўрад робіць усё, што можа, каб зьмякчыць эканамічныя наступствы, і, перш за ўсё, захаваць працоўныя месцы.

Мы можам зрабіць усё неабходнае, каб дапамагчы нашым прадпрымальнікам і працаўнікам вытрымаць гэта цяжкае выпрабаваньне, і мы зробім гэта.

Кожны можа быць упэўнены — забесьпячэньне прадуктамі будзе гарантаванае заўсёды. І калі ў нейкі момант паліцы апусьцелі, значыць, яны будуць запоўненыя ізноў. Кожнаму, хто зараз ідзе ў супэрмаркет, я б хацела сказаць: рабіць запасы мае сэнс, так было заўсёды. Але ў меру. Ліхаманкавая скупка прадуктаў, як быццам іх больш не будзе, бессэнсоўная і, у рэшце рэшт, кажа пра адсутнасьць салідарнасьці зь іншымі людзьмі.

І дазвольце мне сёньня выказаць падзяку тым людзям, якіх занадта рэдка дзякуюць. Тыя людзі, якія ў гэтыя дні сядзяць за касай супэрмаркету ці напаўняюць паліцы, робяць адну з найцяжэйшых працаў на сёньняшні дзень. Дзякуй, што застаецеся на пасадзе дзеля суграмадзян, працаздольнасьць крамаў літаральна трымаецца на вас.

**Галоўнае — абмежаваць кантакты**

Зараз аб самым неабходным: усе дзяржаўныя меры будуць бессэнсоўныя, калі мы не будзем выкарыстоўваць найбольш дзейсны сродак супраць занадта хуткага распаўсюджваньня віруса: нас саміх. Вірус закрануў кожнага з нас без разбору, і зараз сапраўды гэтак жа без разбору мы павінныя дапамагаць адзін аднаму. Перш за ўсё тым, што прымем праблему ўсур'ёз. Не ўпадаць у паніку, але таксама ні на хвіліну не дапускаць думкі, што ад вас нічога не залежыць. Кожны на рахунку. Патрэбныя нашыя агульныя намаганьні.

Эпідэмія паказала нам, наколькі мы ўсе ўразьлівыя і як залежныя ад абачлівых паводзінаў іншых. Але акрамя гэтага — як сумеснымі дзеяньнямі мы можам абараніць і падтрымаць адзін аднаго.

Гэта залежыць ад кожнага. Мы не асуджаныя і не павінныя адхілена назіраць, як распаўсюджваецца вірус. У нас ёсьць супраць яго сродкі: мы павінны берагчы адзін аднаго і захоўваць дыстанцыю. Парады вірусолягаў адназначныя: больш ніякіх поціскаў рукі, грунтоўна і часта мыць рукі, захоўваць дыстанцыю ад іншых людзей, па меншай меры, паўтара мэтра, і лепш за ўсё спыніць кантакты з людзьмі вельмі сталага веку, таму што менавіта яны знаходзяцца ў найбольшай небясьпецы.

Я ведаю, як цяжка выконваць гэтыя патрабаваньні. Як раз у цяжкія часы мы хочам быць бліжэй адзін да аднаго. Клопат для нас заўсёды выяўлялася ў шчыльным кантакце і дотыку. Але, на жаль, цяпер правільней прытрымлівацца адваротнага. І мы ўсе павінны зразумець: цяпер менавіта дыстанцыя — праява клопату.

Зайсьці да некага з добрымі намерамі, неабавязковае падарожжа — усё гэта можа азначаць заражэньне, і ад гэтага цяпер трэба адмовіцца. Экспэрты абгрунтавана кажуць: унукі не павінныя зараз сустракацца з бабулямі і дзядулямі.

Тыя, хто пазьбягаюць непатрэбных сустрэч, дапамагаюць усім, хто цяпер у шпіталях клапоціцца пра пацыентаў, колькасьць якіх толькі расьце. Так мы ратуем жыцьці. Гэта для многіх будзе цяжка, і таму зараз мы нікога не павінныя пакідаць у самоце, мы павінныя паклапаціцца пра тых, каму патрэбныя спачуваньне і падтрымка. Мы — сем'і і грамадзтва — знойдзем іншы спосаб падтрымаць адзін аднаго.

Ужо цяпер паўстала мноства крэатыўных спосабаў супрацьстаяць вірусу і яго сацыяльных наступстваў. Ужо цяпер унукі запісваюць падкасты для бабуляў і дзядуляў, каб тыя не адчувалі сябе самотнымі.

Мы ўсе павінныя знайсьці спосаб паказаць дружалюбны жэст і разуменьне: скайп, тэлефонныя размовы, эмэйлы а, можа, наогул зноў пачаць пісаць лісты. Бо пошта працуе. Мы чуем пра выдатныя прыклады дапамогі суседзям сталага веку, якія не могуць самі хадзіць на закупы. Я ўпэўненая, узьнікне яшчэ шмат новага, і мы, як грамадзтва, пакажам, што мы нікога не пакідаем у бядзе.

**Гэта гістарычная задача**

Я зьвяртаюся да вас: прытрымлівайцеся правілаў, вызначаных на бліжэйшы час. Мы, як урад, увесь час будзем правяраць, што можна выправіць, што яшчэ неабходна зрабіць. Сытуацыя разьвіваецца, і, застаючыся ў ёй, мы павінныя вучыцца, каб у любы момант зьмяніць рашэньне і рэагаваць іншымі спосабамі. І ўсе нашыя дзеяньні мы будзем тлумачыць.

Таму я прашу вас: ня верце чуткам. Верце толькі афіцыйным паведамленьням, якія мы будзем перакладаць таксама на многія іншыя мовы.

Мы — дэмакратыя. Мы жывем не прымусам, а агульнымі ведамі і салідарнасьцю. Гэта гістарычная задача, і з ёй можна справіцца толькі сумесна.

Я абсалютна ўпэўненая, што мы пераадолеем гэты крызіс, але наколькі вялікія будуць ахвяры? Колькі любімых людзей мы страцім? Гэта шмат у чым залежыць ад нас. Мы можам дзейнічаць рашуча і салідарна. Мы можам прыняць абмежаваньні і падтрымліваць адзін аднаго.

Сытуацыя сур'ёзная, яе фінал адкрыты.

Гэта значыць, ён будзе залежаць, у прыватнасьці, ад таго, як дысцыплінавана кожны з нас выконвае правілы.

Нават калі мы яшчэ ніколі не перажывалі нічога падобнага, мы павінныя паказаць, наколькі шчыра і разумна мы можам сябе паводзіць і гэтым ратаваць жыцьці. Гэта залежыць ад кожнага з нас без выключэньня і, такім чынам, ад нас усіх».

**Радыё Свабода**

# КАРАНАВІРУС У БЕШАНКОВІЧАХ

**Інфікаванага каранавірусам чалавека выявілі ў Бешанковіцкім раёне, яго шпіталізавалі ў Віцебскую абласную інфекцыйную бальніцу.**

Выпадак каранавіруса на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна быў зафіксаваны яшчэ 19-га сакавіка, аднак паведаміла пра яго раённая газета "Зара» толькі 25-га сакавіка. Самаадчуванне ў гэтага чалавека добрае, аднак ён ізаляваны і знаходзіцца ў Віцебскай абласной інфекцыйнай бальніцы, піша выданне са спасылкай на галоўнага санітарнага лекара раёна Ніну Карпушэнка.

Таксама абследаваныя і ізаляваныя людзі, якія знаходзіліся з інфікаваным ў непасрэдным кантакце. У іх тэсты адмоўныя, але пад наглядам медыкаў гэтыя жыхары Бешанковіцкага раёна застануцца на працягу 14 дзён.

На жаль, не паведамляецца, дзе жыхар раёна мог заразіцца каранавірусам - на тэрыторыі Беларусі, альбо выязджаючы некуды за межы нашай краіны.

На 25-га сакавіка ў Беларусі ўстаноўлены 86 выпадкаў інфікавання каранавірусам, 29 чалавек з агульнай колькасці інфікаваных ўжо ачунялі і альбо выпісаныя, альбо рыхтуюцца да выпіскі.

Інфармацыю па дакладным колькасці заражаных ў Віцебскай вобласці апошні час па нейкай прычыне не агучваюць. Паводле афіцыйнай інфармацыі Міністэрства аховы здароўя выпадкаў, калі б каранавірус стаў прычынай смерці пацыента, у Беларусі не было.

Нагадаем, што ўрад даручыў Мінфіну вылучыць бюджэту Віцебскай вобласці 143 183 рублі на мерапрыемствы па папярэджанні завозу і распаўсюджвання інфекцыі, выкліканай каранавірусам COVID-19.

**ННВ**

ПРАЦА ДЭПУТАТА

# АЧЫСЦІЦЬ КАНАВУ — ІСТОТНАЯ ПРАБЛЕМА

**Нядаўна Бешанковіцкі раён наведаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Лепельскай выбарчай акрузе № 23 Ігар Мартынаў.**

Рабочы візіт у рэгіён дэпутат пачаў з наведвання Ульскай сярэдняй школы. Тут парламентарый сустрэўся з педагагічным калектывам, расказаў настаўнікам пра сваю дэпутацкую дзейнасць, акцэнтаваў увагу на асноўных законапраектах, якія разглядаюцца на чарговай сесіі парламента. У прыватнасці, больш падрабязна дэпутат спыніўся на праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне персанальных дадзеных».

Як адзначыў парламентарый, законапраект накіраваны на забеспячэнне абароны правоў і свабод фізічных асоб пры апрацоўцы іх персанальных дадзеных, вызначэнне агульнага паняцця і катэгорыі персанальных дадзеных, прынцыпаў і ўмоў работы з імі. Таксама праект закона ставіць мэтай вызначэнне парадку трансгранічнай перадачы персанальных дадзеных, замацаванне правоў суб'ектаў персанальных дадзеных і абавязкаў дзяржорганаў, юрыдычных і фізічных асоб у працы з персанальнымі дадзенымі.

Яшчэ адна мэта – устанаўленне дадатковых гарантый ад бескантрольнага збору, захоўвання, выкарыстання, іншай апрацоўкі, распаўсюджвання і прадастаўлення персанальных звестак фізічных асоб. Прыняцце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне персанальных дадзеных» дазволіць забяспечыць належны ўзровень абароны персанальных дадзеных у дзяржаве і будзе спрыяць развіццю бізнесу, гандлёва-эканамічных адносін Рэспублікі Беларусь з іншымі краінамі.

У сваю чаргу педагогі школы, скарыстаўшыся прыездам дэпутата, расказалі пра тое, што іх хвалюе. Сярод актуальных для Улы пытанняў – добраўпарадкаванне пасёлка, аўтобусныя зносіны і шэраг іншых. Ігар Мартынаў уважліва выслухаў людзей, усе агучаныя праблемы ўзяў на кантроль. Дарэчы, у гэты дзень парламентарый выканаў адну з ранейшых просьбаў ульскіх настаўнікаў. Дэпутат дапамог у набыцці матэрыялу для афармлення сцэны актавай залы школы.

Затым Ігар Мартынаў разам са старшынёй раённага Савета дэпутатаў Генадзем Шведавым, які суправаджаў дэпутата ў яго рабочай паездцы, аб'ехалі пасёлак, ацанілі стан вуліц і дарог, цэнтральнага парку. Дадзеныя звесткі знойдуць сваё адлюстраванне ў далейшым планаванні работы парламентарыя.

Па прыездзе ў Бешанковічы дэпутат, як і абяцаў раней, пабываў на вуліцы Камсамольскай. У ходзе прыёму грамадзян у лютым жыхар дадзенай вуліцы прасіў у дэпутата садзейнічання ў добраўпарадкаванні дарогі і ачысткі канавы. Сітуацыю на месцы абрысаваў начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама Анатоль Журко. Анатоль Аляксандравіч патлумачыў, што дадзены зварот з кантролю не здымаецца, у бліжэйшы час тут правядуць чарговае прафіляванне дарогі. На жаль, на больш сур'ёзныя работы няма грашовых сродкаў. Няпроста вырашыць пытанне і з ачысткай канавы. Тэхніцы да праблемных яе ўчасткаў не падступіцца, варыянт адзін – чысціць уручную. У такім выпадку, лічыць спецыяліст, з ім пагадзіўся і дэпутат, нават мінімальная дапамога з боку мясцовых жыхароў прыйшлася б дарэчы.

**"Зара"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДОМ БЕЗ ГАСПАДАРОЎ

**Днямі мне пашчасціла назіраць пралёт гусей над цэнтрам Мінска. Але ці можна ў гэтай падзеі ўбачыць сімвалічны сэнс? Не ўпэўнены. Уся ўвага сёння прыцягнутая да іншага біялагічнага віду з атрада гусепадобных — лебедзяў, прычым выключна з чорнымі пёрамі.**




Чорны лебедзь з падачы амерыканскага пісьменніка і статыстыка Насіма Талеба даў імя тэорыі, якая разглядае рэдкія падзеі, што складана спрагназаваць, аднак якія спараджаюць значныя наступствы (як правіла, негатыўныя). Чорны лебедзь — гэта сучасны аналаг белага і пухнатага паўночнага звярка з застойных брэжнеўскіх часоў.

Здавалася, гэта ганарлівая птушка, якая добра павесялілася на родных вадаёмах на мяжы 1980–1990-х гадоў мінулага стагоддзя, назаўсёды пакінула ў спакоі Сінявокую. Краіну накрыла стабільнасць. Накрыла нібы тазам — настолькі шчыльна, што адзін выбітны розум, не пазбаўлены ўяўлення, загаварыў пра Беларусь як пра донара еўрапейскай стабільнасці.

Варта прызнаць, што гэтаму розуму на працягу многіх гадоў неадназова шанцавала. Ён прыйшоў ва ўладу, калі эканоміка адштурхнулася ад дна, дасягнутага ў выніку калапсу савецкай мадэлі (глядзі табліцу). Натуральна, змену трэнду дзяржаўная прапаганда патлумачыла выбітнай здольнасцю розуму несці сінявокую краіну перад сабой, *«як маленькае дзіця»*. Сам розум наконт такога тлумачэння, натуральна, не пярэчыў.

Крыху эканамічнай статыстыкі. Рэкамендую звярнуць увагу на паказчык 1997 года, калі рэкордныя 111,4% былі атрыманыя насуперак запланаваным 105%. Як правіла, па факце атрымліваецца менш. Напрыклад, у 2013 годзе фактычныя тэмпы прыросту эканомікі адсталі ад запланаваных амаль на парадак: 0,9% замест 8,5%. Якая ж прычына таго, што так істотна былі падкарэктаваныя планы ўрада ў станоўчы бок у 1997 годзе?

Усю адказнасць варта ўскласці на аднаўленчы рост. Ён *«прыходзіць нечакана, як падарунак»* (Ягор Гайдар), але працягваецца нядоўга. Аднаўленчы рост — гэта рост за кошт магутнасцяў, якія вызваліліся падчас дасягнення дна: кадры не разбегліся, станкі не распрададзеныя, камплектуючыя не раскралі, а ўнутраны рынак не паспелі акупаваць замежныя канкурэнты.

Аднак доўга аднаўленчае шчасце працягвацца не здольнае, што і пацвердзіла практыка. Да канца 1990-х гадоў тэмпы эканамічнага росту перайшлі з галопу на рысь. З далейшай транспарціроўкай Сінявокай на выцягнутых руках *«як маленькага дзіцяці»* павінны былі наступіць праблемы. Аднак яны не надышлі. Чорны лебедзь не прыляцеў.

**Рост на фоне дэградацыі**

За дзясятыя гады новага стагоддзя сярэднегадавы індэкс экспарту склаў 116,6%. Няўдалым стаў толькі 2009 год (67,2%). Экспарт тавараў у краіны Еўрасаюза з 2000-га па 2010-ы вырас у 3,6 разу. Ведай нашых! Нервова скуголілі ўбаку тыгры Паўднёва-ўсходняй Азіі…

Такі поспех, як нескладана здагадацца, адзіны палітык (АП) прадставіў у якасці доказу правільнасці курсу. Мы, маўляў, у адрозненне ад нашых суседзяў, не сталі слухаць дактароў з МВФ і не пайшлі на беспадстаўную прыватызацыю. Мы захавалі прамысловыя прадпрыемствы і працоўныя калектывы. Мы, мы, мы...

Чалавеку ўласціва карыстацца добрай рэпутацыяй у самога сябе. АП у гэтым сэнсе не з'яўляецца выключэннем. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што рост ВУП ён паставіў сабе ў заслугу, а дэградацыю савецкай прамысловай спадчыны палічыў за лепшае не заўважаць.

Між тым парадаксальнае, на першы погляд, спалучэнне росту і дэградацыі наглядна пацвярджае афіцыйная статыстыка: з 2000-га па 2010-ы працэнт мінеральных прадуктаў, аснову якіх складалі выраблены з расійскай нафты бензін, салярка, мазут і змазачныя масла, у беларускім экспарце павялічыўся з 20,2% да 35,5% пры адначасовым скарачэнні долі машын, абсталявання і транспартных сродкаў з 25,2% да 19,7%.

Але калі фізічны аб'ём экспарту мінеральных прадуктаў за названы перыяд вырас у 1,4 разу, то ў вартасным — у 4,8 разу! За гэта варта быць удзячным росту сусветных цэнаў на нафту! Гэтымі «нажніцамі» і тлумачыцца «сытасць» нулявых гадоў для беларускай мадэлі.

Сцвярджаць, што АП да поспеху сваёй мадэлі не меў ніякага дачынення, азначала б зграшыць супраць ісціны. Яго асабісты ўклад у палітыку «нафта ў абмен на пацалункі» быў істотным, калі не вырашальным. Аднак такі абмен, як ніякі іншы фактар, і паспрыяў дэградацыі вытворчасцяў, што дасталіся ў спадчыну ад савецкага «зборачнага цэху».

Высокія цэны на нафту і нафтапрадукты адышлі — і стала відавочным тое, што на працягу дзесяцігоддзя паспяхова хавала дзяржаўная прапаганда: за чвэрць стагоддзя пад кіраўніцтвам АП у Беларусі так і не ўдалося стварыць здольную да самаразвіцця эканамічную мадэль. Без датацыйнага падсілкоўвання з боку Расіі яна не выжыве.

**Менш за працэнт**

Гэтыя простыя высновы ляжаць на паверхні, аднак яны, тым не менш, не аказалі ніякага ўплыву на абраны чвэрць стагоддзя таму эканамічны курс. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова звярнуцца да любога прэс-рэлізу, размешчанага на сайце АП.

9 сакавіка, напрыклад, ён правёў нараду з кіраўніцтвам Савета Міністраў. Сярод разгледжаных дакументаў — *«праекты ўказаў аб дадатковым стымуляванні мясцовых органаў улады, аб прапановах па ўдасканаленні працэдуры банкруцтва і абароне правоў работнікаў, аб дзяржнаглядзе за тэхнічным станам трактароў і іншай тэхнікі, аб дэпазітнай сістэме абарачэння спажывецкай упакоўкі і стымуляванні выкарыстання электрамабіляў»*.

Цікава, пагадзіцеся! На сусветных рынках — паніка, цэны на ўсе віды сыравіны пікіруюць, сярэдні заробак у доларавым эквіваленце ў Беларусі сціскаецца, нібы шчыгрынавая скура, а кіраўнік дзяржавы знаходзіць час разважаць пра дарагую тэхніку, якую ў гаспадарках пасля двух гадоў эксплуатацыі «кідаюць пад плотам як металалом».

Але ж самае цікавае — АП ведае, што *«там, дзе рынак спрацаваў, у прыватніка, яго правяраць не трэба. <...> Не трэба ісці і глядзець, як ён там паставіў тэхніку, як даглядае за ёй: гэта яго асабістая ўласнасць, ён ведае, як з ёй абыходзіцца»*.

Далей ідзе выснова, якую варта напісаць залатымі літарамі: *«Але колькі ў нас такіх гаспадароў? Напэўна, менш за працэнт* (вылучана. — Рэд.). *А астатнія будуць хадзіць з працягнутай рукой і прасіць: дайце грошай, каб набыць трактар, таму што пасеяць няма чым. А гэта ўпіраецца ў харчовую бяспеку нашай дзяржавы і велізарныя аб'ёмы экспарту»*.

Дзяржава, у якой 99 працэнтаў працаўнікоў сельскай гаспадаркі ходзяць з працягнутай рукой — вось такі вынік руху правільным курсам на працягу чвэрці стагоддзя! Тут не пра харчовую бяспеку думаць трэба. Калі так пойдзе і далей, то вяртанне па вясне любога шпака або берасцянкі будзе здольнае справакаваць эфект чорнага лебедзя. На коне незалежнасць і суверэнітэт. Дажыліся!..

* * *

У юнацтве я прачытаў раман нямецкага пісьменніка Генрыха Бёля «Дом без гаспадара». Раман напісаны ад асобы хлопчыка, якому выпала шчасце жыць у пасляваенныя гады ў сям'і без бацькі. Сям'ю не варта блытаць з краінай. Розніца тут хутчэй якасная, чым колькасная, і таму наяўнасць аднаго гаспадара ў краіне азначае адначасова адсутнасць мільёнаў гаспадароў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы ЧАС"**

COVID-19

# НЕУТЕШИТЕЛЬНЫЙ ПРОГНОЗ

**Пандемия COVID-19 может продлиться до двух лет. Длительность пандемии будет зависеть от того, когда начнется применяться вакцина против COVID-19, заявил руководитель ведущего немецкого института по изучению инфекционных заболеваний.**

Директор Федерального института Германии по изучению инфекционных заболеваний и непереносимых болезней (Институт имени Роберта Коха) констатировал быстрый рост количества инфицированных новым коронавирусом SARS-CoV-2 в ФРГ и растущую обеспокоенность клиник и властей по поводу наплыва пациентов, пишет DW.

Как заявил руководитель RKI Лотар Вилер, «мы видим, что даже хорошо оснащенные отделы здравоохранения и университетские клиники испытывают трудности из-за растущего числа заболевших».

Он отметил, что специалисты приняли решение повысить уровень угрозы заражения коронавирусом в Германии с умеренного до высокого. Также руководитель института считает абсолютно адекватными ограничительные меры, которые ввели федеральные власти.

Руководитель RKI также выразил мнение, что пандемия коронавируса может продлиться около двух лет. На вопрос о том, сохранятся ли действующие ограничения все это время, он сказал, что в экстремальных случаях это возможно, текущую ситуацию нужно постоянно анализировать.

Число инфицированных SARS-CoV-2 в Германии достигает шести тысяч (погибло 13 человек). Но реальное число инфицированных выше хотя бы из-за задержки с передачей данных, считает специалист.

В настоящее время за пределами КНР, где началась пандемия, больше случаев заражения коронавирусом, чем в самом Китае (86 тысяч против 81 тысячи): «В настоящее время Европа находится в центре пандемии».

Вилер призвал как можно скорее подготовить немецкие клиники к приему все растущего числа больных: «Мы находимся в начале эпидемии и ожидаем от всех больниц, что они как минимум удвоят мощности своих отделений интенсивной терапии».

Эксперт заметил, что каждый пятый случай заражения коронавирусом протекает в тяжелой форме, а поэтому невозможно спрогнозировать уровень смертности от COVID-19. Вилер также отметил, что пандемии распространяются волнами, но их скорость трудно предсказать.

«Пройдут годы, прежде чем коронавирусом заразится ожидаемое число людей на уровне 60-70%. Длительность пандемии во многом будет зависеть от того, когда начнется применяться вакцина против SARS-CoV-2, а это может случиться уже в будущем году», — резюмировал глава RKI.

Напомним, по информации Минздрава, на данный момент в Беларуси официально подтверждено заражение 36 человек. Трое выздоровевших выписаны домой. Один пациент находится в состоянии средней степени тяжести. Остальные чувствуют себя удовлетворительно.

Накануне Александр Лукашенко заявил, что «мир с ума сошел от коронавируса».

**https://naviny.by**

***От редакции:*** *Читайте на сайте главное о коронавирусе: Симптомы коронавируса — и что делать, если вы заболели; По полочкам. Как уберечься от коронавируса; Коронавирус COVID-19 в Беларуси. Полная хроника событий; Пандемия COVID-19 может продлиться до двух лет; Названы лекарства, которые могут ухудшить состояние здоровья при коронавирусе.*

COVID-19

# БЕРАЖЫЦЕСЯ, БО ЭПІДЭМІІ НЕ БУДЗЕ

**Віктар Марціновіч разважае на budzma.by аб тым, чаму ў нашай краіне не прымаецца ніякіх рашучых захадаў для барацьбы з каранавірусам.**

Калі ўсё гэта толькі пачыналіся, схільныя да параноі аналітыкі выказвалі здагадку, што тое, што адбываецца з каранавірусам у Беларусі, усё ж мае лагічнае тлумачэнне. Што такім чынам нас плаўнёханька падводзяць да сітуацыі, калі надзвычайнае становішча, адмена выбараў ці правядзенне выбараў ва ўмовах стоадсоткавага галасавання дома будзе адзінай опцыяй праз абвешчаны татальны лакдаўн.

Дык вось, песімісты памыліліся. Разгортваецца зусім іншы сцэнар.

Паводле якога эпідэміі не будзе.

Менавіта пра гэта сведчаць апошнія выказванні адказных асобаў.

Калі б яны дапускалі магчымасць увядзення паўнавартаснага каранціну, то не былі б настолькі ўпартымі вось цяпер, на фоне таго, што робіцца ўжо і ў Маскве.

Але ўсё, мяжа далучэння да ўсяго астатняга свету пройдзеная.

Чэмпіянат Беларусі па футболе, які транслявалі і за мяжу ў той час, калі адссоўваюцца тэрміны фіналу еўракубкаў, а «Еўра-2020» перанесены на год, калі ўжо зразумела, што ў Італіі трыгерам быў матч Лігі чэмпіёнаў паміж «Атлантай» і «Валенсіяй», — гэта пазіцыя.

Ну не вераць людзі ў каранавірус. І калі яны не вераць, дык як можна прызнаваць, што вірус ёсць?

Таму яго не будзе. Нават калі хворых на пнеўманію зробіцца вельмі шмат. Гэта ж усё пнеўманія, чорт яе бяры. Хто сказаў «каранавірус»? Няма ў нас такога. Менш за сотню выпадкаў, а вы паглядзіце, колькі выздаравела!

Пасля таго, што ўжо сказана наверсе, мы маем усе шансы быць самай паспяховай у змаганні з каранавірусам краінай на свеце. З пашытай на «Славянцы» тканіннай маскай па рубель семдзесят пяць у якасці сімвала. З нулявой смяротнасцю.

Бо разумееце, гэта ж тая самая сітуацыя, што і з выбарамі. Лічбы могуць быць любымі.

Дактары лёгка могуць быць пастаўленыя ў тыя ж умовы, у якіх сістэматычна аказваюцца настаўнікі падчас электаральных кампаній. І ці не ўсё роўна чалавеку, ад чаго ён не можа дыхаць? Ці прынцыпова родным, што будзе напісана ў пасведчаннях? І калі ўсё ж прынцыпова, дзе гэтая прынцыповасць канчаецца? І наколькі моцна трэба падціснуць, каб яе не засталося наогул?

Калі на стале рэпутацыя краіны і вернасць абранага шляху, пагадзіцеся, мусіць нам усім зрабіцца не да казурак, не бачных нават у моцны мікраскоп.

Што вы кажаце? Міжнародныя арганізацыі? Дык яны тут прадстаўленыя людзьмі. Якім таксама хочацца быць на свабодзе. І потым, дзе яна, тая статыстыка? Хто яе мае? Хто вырашае, што казаць, а што — не?

Каранавірус — як радыяцыя ў 1986-м. Яго ж не бачна. Па вуліцах не бегае, не рохкае і не мыкае. Ці ёсць ён, ці яго няма — пытанне веры. У нас вырашылі не верыць.

Аўтарытарызм мацнейшы за хваробу.

Так, дарэчы, думалі ў Кітаі, дзе таксама моцная і квітнеючая сістэма. Якая таксама спачатку спрабавала не заўважаць.

Там улада нават яшчэ мацнейшая за нашую.

Чаму гэта ў Кітаі вірус усё ж выпнууўся?

Не задумваліся? А? Таварышчы ў пінжаках?

Не давядзецца потым у краіны і ўсіх суседзяў прабачэння прасіць? Не?

Вы думаеце, вы круцейшыя за кітайцаў? Ну то ладна, парадуемся!

Глядзіце, да каранавіруса сістэме прапанавана ставіцца як раней да апазіцыі. Яго няма ні на ТБ, ні ў газетах, як раней там не было Статкевіча ці Севярынца. Пра яго гэтаксама малююць нейкія там карыкатуркі спецыяльна адшуканыя маладзёны. Каранавірус — гэта анекдот, бы КХП-БНФ. Падыход правільны і за шмат гадоў адпрацаваны.

Да тых, хто выклікаў хуткую праз тое, што цяжка дыхаць, можна адразу накіроўваць міліцыю — прабіваць усе кантакты цягам двух тыдняў. Некалькі рэпартажаў пра тое ў ананімных тэлеграм-каналах, і да дактароў у нас пачнуць звяртацца, калі ўжо цалкам ссінеюць.

Зноўку ж — гэта вы цяпер у Фэйсбуку звягаеце, што, маўляў, суседа «хуткая» забрала. А што калі да ўсіх, хто такое напісаў, высылаць адразу спецназ у хімкамплексе? Ізаляваць на два тыдні — ды адразу не ў шпіталі, а ў адзіночны пакой СІЗА, бо там кантактаў дакладна меней? Тут такая перамога над вірусам будзе, што Кітай захлынецца слязамі.

Эпідэміі не будзе. Вы пра яе не пачуеце.

Дзеці працягнуць хадзіць у школу, студэнтам не адменяць заняткі, людзі працягнуць цягацца на працу на грамадскім транспарце.

Якую праблему я ў гэтым бачу?

У суседняй Расіі, з якой сінхранізаванае мысленне чынавенства, учора канчаткова абранай катэгарычна іншая тактыка. Там пачалі алармаваць.

Пуцін абвясціў тыдзень выходных з захаваннем заробкаў. Пачынаецца відавочны рассінхрон, і тутэйшым спатрэбіцца вельмі шмат характару, каб давесці сваю няверу ў каранавірус да лагічнага фіналу, з элегантнымі лічбамі. Але, паўтаруся, не будзем гэтага выключаць — і не такое бачылі.

То калі ласка, беражыце сябе і сваіх родных. Абмяжуйце выхад з дому без патрэбы.

Паклапаціцеся пра старых. Тое, што «эпідэміі не будзе», — нагода берагчыся на індывідуальным узроўні.

**Віктар Марціновіч**
**budzma.by**

УЛАДА

# СВЕТЛАНА КАЛИНКИНА: ПРЕДАТЕЛЬСТВО

**Что бывает за предательство интересов государства, которое платит тебе зарплату? Что бывает за антигосударственную пропаганду?**
**Отвечаю сразу: очень даже хорошо бывает — ордена, медали, звания, должности, служебный кабинет, личный водитель, хорошая пенсия...**

Зайдите на сайт газеты Парламентского собрания Союза Беларуси и России «Союзное вече», и вы поймете, о чем я. Девиз издания, его лозунг зафиксирован прописными буквами прямо в «шапке»: «Две страны — одно государство». Получается, что именно во имя этого на наши с вами деньги работает данное СМИ. Вот только за подобные лозунги надо не деньги давать, а привлекать к ответственности, ведь это подрыв государственных устоев, призыв к отказу от государственного суверенитета, посягательство на святое для каждой уважающей себя державы.

И не надо валять дурака, рассказывая, что лозунг «Союзного вече» — это просто красивая фраза про белорусско-российскую дружбу. Он не про дружбу. Даже совсем не про нее.

Понятия «страна» и «государство» близки по смыслу, но не абсолютные синонимы. «Страна» происходит от понятия «сторона», то есть направление, край, что очень хорошо видно по белорусскому слову «краіна».

Страной называют территорию с определенными границами, на которой население объединено исторически и культурно. Но страна может иметь государственный суверенитет, а может его и не иметь. Например, в Австро-Венгерскую империю как в государство входили десятки разных стран. Из современного можно вспомнить страну Басков — автономное сообщество на севере Испании. Или, например, Тибет, провозгласивший еще в 1913 году собственную независимость, но сегодня являющийся регионом Китая. А знаете, сколько стран входит в Великобританию? Шотландия, Уэльс, Северная Ирландия и еще более десятка заморских территорий, которые находятся под суверенитетом британской короны. Хорошо им живется под большим крылом или плохо — вопрос отдельный. В данном случае важно то, что понятие «страна» имеет не столько политическое, сколько социально-экономическое и культурно-историческое значение.

Иное дело — государство. Это понятие как раз политическое. И обозначает общность людей, которые не только объединены проживанием на одной земле, но и имеют свои органы власти, свою систему государственного управления, сами принимают решения о своей судьбе. Государство всегда суверенно и самостоятельно, не находится ни под чьим протекторатом и живет по своим законам.

А теперь, зная теорию, вернемся к слогану «Две страны — одно государство». Получается, что то же «Союзное вече» нас призывает отказаться от белорусской государственности и стать «страной». Стать стороной, окраиком большой Российской империи!!!

Выходит, призывают стереть Беларусь с политической карты мира и стать всего лишь самобытным регионом — своеобособенным, чистеньким и ухоженным, — но без собственной государственности.

В таком случае те, кто исповедует такой призыв, предатели. Просто предатели интересов белорусского государства.

Конечно, и Кочанова, и Андрейченко как руководители белорусского парламента, и Жук как руководитель холдинга «СБ. Беларусь сегодня», издающего «Союзное вече», и десятки других высокопоставленных лиц, кто имел отношение к учреждению этого издания, будут возмущаться, отрицать и возражать. Мол, не мы, а Александр Григорьевич Лукашенко ставил подпись под Договором о учреждению Союзного государства, в развитие которого и появились всякие подобные СМИ с их лозунгами.

Да, Лукашенко открыл дорогу, подписав с Борисом Ельциным тот злополучный договор. Но все-таки в тексте союзного договора нет даже намека на то, что Республика Беларусь перестанет быть государством и станет страной, к чему призывает «Союзное вече». Более того, именно как государство-участник Республика Беларусь может провести референдум о выходе из этого договора, о чем прямо сказано в подписанном документе. И я, например, считаю, что Кочановой, Андрейченко, Жуку и иным государственным деятелям, которые действительно работают не за себя, а за Беларусь, следовало бы готовить Александра Лукашенко к принятию именно такого решения. Но это уже отдельная большая тема. А для начала пусть объяснятся по поводу лозунга национального предательства, который с их молчаливого согласия или даже одобрения исполнительные журналисты понесли в народ.

*«Статья в рубрике „Особое мнение" является видом материала, который отражает исключительно точку зрения автора. Точка зрения редакции „Белорусского партизана" может не совпадать с точкой зрения автора.*

*Редакция не несет ответственности за достоверность и толкование приведенной информации и выполняет исключительно роль носителя. Вы можете прислать свою статью на почту belpartisan@gmail.com для размещения в рубрике „Особое мнение", которую мы опубликуем».*

**Светлана Калинкина**
**https://belaruspartisan.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.03.2020 у 15.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.